№ 95 (1658)
Чацвер , 29 мая 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +16...+18, уначы — +5...+7; у Брэсце ўдзень — +20...+22, уначы — +9...+11; у Гродне ўдзень — +18...+20, уначы — +6...+8; у Віцебску ўдзень — +14...+16, уначы — +6...+8; у Гомелі ўдзень — +19...+21, уначы — +7...+9; у Магілёве ўдзень — +16...+18, уначы — +6...+8. Па ўсёй краіне захаваецца сонечнае надвор'е, без ападкаў.

*www.meteo.by*



## Беларусы могуць стаць рабамі. Сітуацыя ў эканоміцы даведзена да такога стану, што айчынны капітал фактычна не мае магчымасцей удзельнічаць у конкурсе набыцця акцый буйнейшых прадпрыемстваў. А расійскія бізнес-акулы імкнуцца скупіць беларускія заводы і фабрыкі за капейкі. Кім жа мы будзем: гаспадарамі ці рабамі?

ТЭМА ДНЯ

# ТРЫВОЖНЫ ЗВАНОК,

## або Чаму праваліўся конкурс па продажы акцый беларускіх прадпрыемстваў і на што спадзяецца віцэ-прэм'ер Андрэй Кабякоў

Трывожны званок для нашай краіны прагучаў гэтымі днямі. Шкада, што яго прапусцілі міма вушэй і ўлады, і грамадскія арганізацыі.

Размова ідзе пра адкрыты конкурс па продажы пакета акцый буйнейшых прадпрыемстваў нафтахімічнага комплексу, такіх як "Нафтан", "Палімір", "Гродна Азот" і "Гродна Хімвалакно". Яго збіраліся правесці 4 і 5 чэрвеня. Але ён не адбудзецца. Па вельмі кепскай прычыне — не знайшлося ніводнага пакупніка.

Гэта проста надзвычайны, унікальны выпадак. Штосьці не помніцца, каб у нашых суседзяў здаралася нешта падобнае. Так, пераносы конкурсаў, малаватая колькасць удзельнікаў былі. Былі і няўдалыя, сумніўныя здзелкі. Але каб не знайшлося ніводнага пакупніка на такія смачныя кавалачкі, як прадпрыемствы перспектыўнага нафтахімічнага комплексу, — такога, здаецца, не было нідзе. Самы час адказным за эканоміку ў краіне ісці ў адстаўку.

Гэты факт абсалютна не сведчыць, што згаданыя прадпрыемствы нікога не цікавяць. Справа зусім у іншым. Найперш у тым, што яны надта моцна цікавяць алігархаў суседняй Расіі, якія даўно паклалі вока на іх. Дык чаму ж яны адмовіліся ад удзелу ў конкурсе? Вось у гэтым і заключаецца трывожны званок для беларускай эканомікі.



*На Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе.*

Справа ў тым, што **расійскія алігархі маюць намер скупіць нашы лепшыя вытворчасці за бясцэнак.** І даволі разумна крок за крокам ідуць да пастаўленай мэты. Яны проста адмовіліся ад ўдзелу ў конкурсе на прапанаваных беларускім бокам умовах і ясна далі зразумець, што вялікіх грошай не дадуць. Яны добра ведаюць, што сваіх сродкаў для мадэрнізацыі згаданых прадпрыемстваў Беларусь не мае, больш таго — краіна наогул не мае іх. Так што рана ці позна, але ўрад Беларусі вымушаны будзе пагадзіцца з іхнімі ўмовамі. І чым больш часу пройдзе да здзелкі, тым для расіян лепей. Пазней яны змогуць скупіць названыя вытворчасці проста за капейкі. Для іх — грандыёзныя барышы, для беларускага народа — трагедыя.

Вядома, калі б у Беларусь мелі намер прыйсці заходнееўрапейскія інвестары, тады расіяне не вялі б сябе так задзірліва. Але ж апошнія ведаюць: палітычны клімат у Беларусі не прыцягальны для заходніх інвестараў. У той жа час іх удзел у набыцці акцый беларускіх прадпрыемстваў — бадай, адзіная магчымасць выратаваць нашу эканоміку. Удзельнікі конкурсу з перадавых заходніх краін стварылі б моцную канкурэнцыю за права набыць акцыі нашых прадпрыемстваў. Яна дапамагла б атрымаць добрыя грошы. З другога боку — самыя сучасныя, самыя перадавыя тэхналогіі знаходзяцца не на Усходзе, а на Захадзе.

Найлепшы варыянт — прыцягненне да ўдзелу ў конкурсе беларускіх прадпрымальнікаў. Але такіх, а дакладней, з такімі капіталамі ў нас, можна сказаць, няма. Урад толькі і рабіў, што прыціскаў і душыў гэтых "вшивых блох", замест таго каб настойліва "вырошчваць" уласных акул бізнесу. Больш таго, гэтая заганная практыка працягваецца. Апошнім часам моцна апусцелі вядомыя мінскія рынкі "Ждановічы", "Купалаўскі" ды іншыя. На іх пустуе да трэці рабочых месцаў. З пачатку года ў Мінску здалі свае пасведчанні каля 20 тысяч індывідуальных прадпрымальнікаў. Такім чынам, айчынны моцны прыватны капітал наўрад ці сфарміруецца ў бліжэйшай перспектыве.

Так што заява віцэ-прэм'ера беларускага ўрада Андрэя Кабякова аб тым, што ўмовы конкурсу, магчыма, будуць мадэрнізаваны, але ў любым выпадку яны будуць толькі ў інтарэсах дзяржавы і "за бясцэнак ніхто нічога аддаваць не будзе", — не што іншае, як чысты папулізм, спроба стварыць добрую міну пры кепскай гульні.

На што спадзяецца спадар Кабякоў? Вядома ж, што ў такой сітуацыі, якая склалася вакол конкурсу па продажы акцый беларускага нафтахімічнага комплексу, першую скрыпку іграе ўжо не прадавец Кабякоў, а расійскія алігархі-пакупнікі. Вядома, што пакуль не атрыманыя грошы ад збыту акцый згаданых прадпрыемстваў ужо закладзены ў важныя праграмы і іх неатрыманне сур'ёзна пагоршыць і так даволі цяжкае становішча айчыннай эканомікі, якая развіваецца па так званай і моцна разрэкламаванай асаблівай беларускай мадэлі.

Нельга не закрануць некаторыя каментарыі ў друку, аўтары якіх чамусьці адкрыта сталі на абарону расійскіх інтарэсаў, а не беларускіх. Яны моцна папракаюць беларускіх урадоўцаў за высокі кошт акцый, сцвярджаюць, што прыцягальнасць акцый беларускіх прадпрыемстваў нават для расійскіх інвестараў роўная нулю. Навошта ліць бруд на айчынных вытворцаў? Хто хоць трохі петрыць у эканоміцы, скажа, што акцыі нашага нафтахімічнага комплексу — даволі прыцягальныя для многіх. Трэба толькі стварыць у краіне добрыя ўмовы для інвестараў і развіцця эканомікі. Адсутнасць пакупнікоў і зрыў конкурсу — сведчанне адсутнасці гэтых умоў, а не надта дарагія кошты акцый. І яшчэ: які ж гэта конкурс, калі гаворка ідзе толькі пра расійскіх пакупнікоў? Конкурс — гэта калі шмат пакупнікоў з розных краін, з рознымі магчымасцямі. Конкурс — гэта калі выйграюць айчынныя інтарэсы, а не інтарэсы "старэйшага брата". Нам, беларусам, аднолькава шкодны як палітычная, так і эканамічная экспансія Расіі, як і любой іншай краіны.

Шкада, што ў каментарыях урадоўцаў і публіцыстаў амаль не аналізуецца гэты важнейшы аспект, ад якога і залежыць поспех як будучых конкурсаў, так і развіцця ўсёй эканомікі Беларусі.

**Алесь ДРАБЧУК.**
**Фота IREX/ProMedia.**

ПУЛЬС

## Ута Цапф: трэба змяніць выбарчае заканадаўства Беларусі

У Мінску адбылася сустрэча дэлегацыі Парламенцкай асамблеі АБСЕ, у склад якой уваходзяць кіраўнік групы Ута Цапф, член шведскага парламента Урбан Алін і брытанскі парламентарый Фрэд Понсанбі, з прадстаўнікамі шэрагу апазіцыйных палітычных партый — Партыі БНФ, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускай партыі працы, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), Ліберальна-дэмакратычнай партыі, Жаночай партыі "Надзея".



Падчас сустрэчы У.Цапф паведаміла, што "галоўны акцэнт у працы групы скіраваны цяпер на ажыццяўленне змен у выбарчым заканадаўстве Беларусі". Дэлегацыю цікавіла ступень супрацоўніцтва дэмакратычных сіл перад парламенцкімі выбарамі.

Гэта была першая сустрэча пасля прызнання ПА АБСЕ Нацыянальнага сходу, зняцця візавых абмежаванняў для вышэйшых беларускіх чыноўнікаў, а таксама аднаўлення працы місіі АБСЕ. Па даручэнні дэмакратычных партый выпрацаваную раней супольную пазіцыю агучыў перад дэлегацыяй ПА АБСЕ В.Вячорка. "Сутнасць гэтай пазіцыі, — паведаміў БелаПАН старшыня Партыі БНФ, — у тым, што нягледзячы на ўсе крокі насустрач з боку АБСЕ, афіцыйны Мінск не зрабіў ніякіх захадаў, не выканана ніводнае з чатырох патрабаванняў АБСЕ: не дэмакратызавана выбарчае заканадаўства, няма доступу апазіцыйных сіл да дзяржаўных СМІ, не створана атмасфера даверу паміж уладай і апазіцыяй, не існуе паўнаўладнага парламента".

**Аляксей ШЭІН, БелаПАН.**

## Закрываецца рэчавы рынак на стадыёне "Трактар"

З 1 чэрвеня па рашэнні адміністрацыі Заводскага раёна Мінска закрываецца рэчавы рынак на мінскім стадыёне "Трактар". Пра гэта БелаПАН паведаміла начальнік аддзела паслуг раённай адміністрацыі Наталля Цыганова.

Цыганова зазначае, што рынак першапачаткова ствараўся як часовы, паколькі тады ішла рэканструкцыя Камароўскага рынку. Адміністрацыя раёна прапаноўвала дастатковы выбар прадпрымальнікам "Трактара" у выглядзе месцаў на іншых рынках, у прыватнасці, у комплексе "Гандлёвы свет "Кальцо" і рынках на вуліцы Малініна і Галадзеда (мікрараён "Чыжоўка").

"У тым стане, у якім цяпер знаходзіцца рынак, асабліва з пункту гледжання супрацьпажарнай бяспекі, ён больш працаваць не можа", — сказала Н.Цыганова.

Старшыня РГА "Перспектыва" А.Шумчанка, каменціруючы БелаПАН рашэнне адміністрацыі Заводскага раёна, выказаў недаўменне дзеяннямі чыноўнікаў, якія парушаюць папярэднія дамоўленасці. "Перспектыва" будзе дабівацца адмены такога рашэння, а таксама не выключае з боку прадпрымальнікаў больш радыкальных дзеянняў", — заявіў А.Шумчанка.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Студэнты свету бароняць ад рэжыму студэнтаў Беларусі

Удзельнікі 44-га з'езда Саюза нацыянальных студэнцкіх саюзаў Еўропы (ESIB), які адбыўся ў Сафіі (Балгарыя), падтрымалі кампанію незарэгістраванага ў Беларусі аб'яднання "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў" (ЗБС) супраць ідэалагізацыі сістэмы вышэйшай адукацыі ў краіне.

Удзельнікі з'езда накіравалі ўраду Беларусі рэзалюцыю, у якой адзначаецца, што студэнцкія арганізацыі Еўропы "глыбока занепакоеныя адсутнасцю акадэмічнай свабоды і ідэалагізацыяй вышэйшай адукацыі ў Беларусі".

У працяг кампаніі супраць ідэалагізацыі адукацыі студэнцкія арганізацыі розных краін свету накіруюць лісты ва ўрад Беларусі і Міністэрства адукацыі з патрабаваннем "патлумачыць, чаму ў еўрапейскай краіне Беларусь працягваюцца парушэнні правоў студэнтаў".

**Аляксей ШЭІН, БелаПАН.**

## У Пінску ходзяць фальшывыя грошы

У Пінскім раёне выяўлены факт збыту фальшывых грошай Нацбанка Рэспублікі Беларусь.

Купюрай наміналам у 5 тысяч рублёў, надрукаванай на ксераксе, два дарослыя жыхары Пінска спрабавалі разлічыцца ў дзвюх вясковых крамах. Аднак зрабіць гэта ім не ўдалося, бо ў абодвух выпадках фальшыўка была распазнана прадаўцамі.

Падазроныя ў наўмысным збыце фальшывай купюры ўстаноўлены. Высветлілася, што падробку яны атрымалі ад знаёмага ім школьніка. У дачыненні да дарослых заведзена крымінальная справа. Дапытаны і школьнік, які патлумачыў, што фальшыўку ён знайшоў на вуліцы.

**Віктар КРОТ.**

УГОЛ ЗРЕНИЯ

## НЕ МОЛЧИТЕ!

**Масштабы происходящих в Беларуси репрессий против директорского корпуса можно сравнить с кампанией сталинских репрессий 1937 года, -- так считает координатор гражданской инициативы "Хартия'97", экс-заместитель министра иностранных дел Андрей Санников.**

*"В настоящее время в Беларуси происходит уничтожение хозяйственной элиты страны,* — говорит Андрей Олегович. — *8500 сидящих сегодня в тюрьмах людей — предприниматели и директора предприятий. За решеткой оказались руководители наиболее успешных и рентабельных предприятий. Идет уничтожение наиболее способной, доказавшей свою состоятельность группы людей, которая могла бы помочь экономике республики выйти из критического состояния".*



Санников привел данные официальной статистики:

*"В 2001 году свыше 20 тысяч человек были привлечены к уголовной ответственности за экономические преступления, включая 400 директоров предприятий. В 2002 году в сфере экономики, по данным МВД, в Беларуси милицией раскрыто более 18 тысяч преступлений. Возбуждено более 5,5 тысячи уголовных дел по фактам хищения и растраты имущества. В 2002 году во время уборочной кампании власть усилила внимание к агропромышленному комплексу. За две недели плановых проверок там было привлечено к уголовной ответственности 868 человек, возбуждено 1516 уголовных дел.*

*Самое страшное в этой ситуации, что люди молчат и пытаются уладить подобные вопросы каким-то другим способом, кроме как гласно обращаться к правосудию, к международным и белорусским правозащитным организациям.*

*Сначала задержанному обещают якобы режим наибольшего благоприятствования, если он начнет против себя же выдвигать какие-то факты. Скажем, депутат Верховного Совета Беларуси 13-го созыва **Владимир Кудинов** и его семья около года не поднимали вопрос о незаконности задержания и не привлекали внимания общественности. Все это время накапливалась информация, подкупались люди, угрожали свидетелям. Когда Кудиновы решили предать огласке то, что происходило на самом деле, было поздно: машина была уже запущена. Поэтому "Хартия'97" хочет обратиться к людям, попавшим в подобную ситуацию, — **НЕ МОЛЧИТЕ!**".*

Координатор "Хартии'97" назвал причины, из-за которых, на его взгляд, развязана столь широкая кампания против хозяйственной элиты страны. *"Первые две причины — экономические. При существующей в стране жесткой командной системе от руководителей предприятий и бизнесменов требуют каким-то образом работать по рыночным законам, в результате чего происходит нестыковка. Кроме того, руководители некоторых предприятий становятся неугодными по той или иной причине группе предпринимателей, близкой к администрации президента, которые пытаются взять контроль над предприятиями. Третья причина — политическая. Происходит уничтожение хозяйственной элиты страны",* — считает Санников.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

# Пробка

## "Нецывілізаваная мяжа паміж дзвюма цывілізаванымі краінамі" становіцца амаль непраходнай

**У рэдакцыю "Народнай волі" з польска-беларускай мяжы ў раёне Брэста патэлефанавалі нашы чытачы. Яны абураны надзвычай вялікімі чэргамі, якія ўзніклі ў апошнія дні з боку Польшчы. Назад у Беларусь нашым грамадзянам трапіць вельмі цяжка, асабліва ў нечаканую майскую спякоту. Некаторыя стаяць у чарзе суткі і болей. Дарэчы, больш за ўсіх пакутуюць не прафесійныя "дальнабойшчыкі", звыклыя да падобных рэаліяў, а тыя, хто пераганяе для ўласных патрэб патрыманую іншамарку, набытую ў Заходняй Еўропе.**



Прычынай затрымкі, як паведамляюць нашы тэлефонныя суразмоўцы, сталі нядаўнія змены ў расійскім заканадаўстве, якія прадугледжваюць новыя мытныя пошліны на ўвазныя аўтамабілі для грамадзян Расіі. Пераразлік гэтых пошлін стаў прычынай таго, што расіян, якіх, згодна з неафіцыйнай інфармацыяй, сярод перасякаючых польска-беларускую мяжу не менш за 80%, пакуль праз мяжу "не пущают". А таму і ўтварыліся велізарныя пробкі.

Я паспрабавала высвятліць сітуацыю ў Беларускім мытным камітэце. На працягу некалькіх гадзін мяне перакідвалі з аднаго тэлефоннага нумара на другі, і ў рэшце рэшт не назваўшая сябе крыніца паведаміла мне, што пытанне, звязанае з узнікненнем чэрг на мяжы, наогул не да іх, а *"да расійскага заканадаўства, па прычыне змен у якім і маглі ўзнікнуць пробкі на мяжы..."*.

Прабачце, але мы пакуль яшчэ незалежная дзяржава — Рэспубліка Беларусь! І чаму праблема пераадолення мяжы "Польшча—Беларусь" нашымі грамадзянамі павінна залежаць ад заканадаўства зусім іншай дзяржавы — Расіі? Адказу на пытанне "Ці нельга зрабіць асобную чаргу на мяжы для беларусаў?" крыніца ў таможным камітэце мне таксама не дала.

Мне ўзгадалася ў гэтай сувязі нядаўняе інтэрв'ю "Народнай волі" Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Рэспублікі Польшча ў Беларусі **Тадэвуша Паўляка**, які сказаў: *"Я быў на польска-беларускай мяжы ў Казловічах, калі там узніклі вялікія чэргі перавозчыкаў. Я бачыў вымотаных гэтымі нязручнасцямі вадзіцелей і потым публічна папрасіў прабачэння за сітуацыю на польска-беларускай мяжы. І ў мяне тут жа з'явіліся дастаткова суровыя апаненты, якія крытыкуюць мяне за тое, што дзейнічаю не належным чынам. Нібы пасол не павінен прасіць прабачэння, а павінен быць "прынцыповым". Наша мяжа — гэта асобная тэма. Нецывілізаваная мяжа паміж дзвюма цывілізаванымі краінамі. Пытанне ў тым, як на мяжы абыходзяцца з нашымі грамадзянамі. Людзі, якія вандруюць на ўласных аўто, нярэдка з маленькімі дзецьмі, вымушаны па 17 гадзін стаяць у чарзе на мяжы. І гэта таму, што там створаны спецыяльныя працэдуры праверкі багажу і г.д. Гэта не Еўропа, не Азія, а Бог ведае што".*

Тэатр, як вядома, пачынаецца з вешалкі. Краіна пачынаецца з мяжы. Калі мы будзем рабіць з мяжы з сяброўскай нам Польшчай непраходны рубеж, то, як кажа паважаны пасол, надоўга застанемся не то Еўропай, не то Азіяй...

**Наталля ГАК.**
**Фота IREX/ProMedia.**

## У Барысаве забаранілі продаж у дзяржаўных крамах незалежнай рэгіянальнай прэсы

Гарвыканкам Барысава прыняў рашэнне, якое забараняе з 1 чэрвеня рэалізацыю ў дзяржаўных прадпрыемствах гандлю перыядычных выданняў і кніжнай прадукцыі без спецыяльнай ліцэнзіі.

Як патлумачыў БелаПАН Анатоль Букас, галоўны рэдактар газеты "Борисовские новости", з 13,5 тысячы асобнікаў штотыднёвага накладу гэтага выдання амаль палова прадавалася ў дзяржаўных крамах, што было зручна і чытачам, і рэдакцыі. Такім жа чынам траплялі да чытача і выпускі іншых выданняў. Рэдакцыі з кожнага гандлёвага месца выплачвалі ў гарадскую казну па 70 тысяч рублёў падаткаў штомесяц.

Намеснік начальніка Барысаўскай інспекцыі па падатках і зборах Эдуард Аскерка гаворыць, што ў яго арганізацыі да рэдакцый недзяржаўных выданняў няма прэтэнзій. Але парадак ёсць парадак, і права весці рознічны гандаль мае быць пацверджана адпаведнымі ліцэнзіямі.

**Алесь НІКАЛАЙЧАНКА.**

Летняя прагулка.

Фота IREX/ProMedia.

# Кто в хвосте?

## Кое-что о так называемой белорусской модели развития

Слышали? Наша страна, оказывается, развивается своим, особым путем. Александр Лукашенко, выступая на заседании постояннодействующего семинара руководящих работников, еще в марте 2002 года заявил: *"Да, белорусская модель развития или белорусский путь развития объективно существует. Все, что сегодня мы имеем в экономике, в социальной и других сферах, результат того, что мы все эти годы шли своим путем, мы жили своим умом. Мы не слушали докторов из Международного валютного фонда..."*

Поняли? Человечество за все время своего существования так и не смогло выработать приличной модели общественного и экономического развития, которую могли бы позаимствовать белорусы. Потому что слабаки все были. Вот и приходится теперь Александру Григорьевичу прокладывать новый путь развития.

Просто жалко поляков, чехов, литовцев... Вместо того, чтобы искать свой путь развития, они поплелись по следу американцев и европейцев в рынок. Да, вскоре они заживут, как шведы или французы, будут кататься, как сыр в масле. Но ведь у них не будет главного — своей модели развития. Что они скажут в старости своим внукам? Что погнались за жирным куском и не заметили, куда свернула Беларусь?

В вышеназванной речи Александр Лукашенко основательно упрекал белорусских ученых: *"Наши научные учреждения и ученые плетутся далеко в хвосте событий и не успевают не то что прогнозировать будущее, но даже толково описать, что уже складывается. Академия наук страны, вузы, Институт социально-политических исследований при Администрации президента, Академия управления — все вместе за эти годы не создали ни одной стоящей работы... разъясняющей белорусский путь развития".*

Да, далеко в хвосте президента плетутся наши академики! На их глазах создается гениальный путь общественного развития, а они в упор его не видят. Ослепли, что ли? Или из зависти не замечают? Это же надо, ни в одной работе не воспели творение Александра Григорьевича. Так что, видимо, неспроста послал он бывшего главу своей администрации товарища Мясниковича главным начальником над академиками. Теперь-то они должны, наконец, прозреть и воспеть белорусскую модель.

Однако что это за штука такая?

Еще в период раннего президентства соратники Александра Григорьевича утверждали, что они не левые и не правые, а реалисты, а сам он добавлял, что цивилизованным путем свой народ не поведет. Так что уже в этих высказываниях попахивало претензий на какую-то особую теорию.

Надо заметить, что общественная дорожка под названием "свой", "особый путь" наиболее истоптанная и загаженная, ибо по ней часто топала публика малообразованная, но очень амбициозная. Так, африканский вождь Мобуту для народа своей страны Заир выдвинул такой тезис: *"Ни налево, ни направо. Движение по собственному пути".* Позже он обосновал доктрину заирского национализма, в которой призывал население вернуться к африканским ценностям. А они таковы: в деревне только один вождь, только он карает и милует, и все его действия и есть истинная демократия, которая приносит истинную пользу народу.

Северокорейский лидер Ким Ир Сен обосновал теорию "чучхе", в которой изложен "особый" путь развития страны с "опорой на собственные силы". Государственная пропаганда до сих пор твердит о превосходстве корейских идей "чучхе", изложенных Ким Ир Сеном и его наследником, над всеми мировыми идеологиями.

Но, пожалуй, всех переплюнул ливийский лидер Каддафи. В своей "Зеленой книге" он изложил "Третью всемирную теорию", универсальную для всех стран, в противовес двум существующим — капиталистической и коммунистической, или рыночной экономике и командно-административной. Таким образом, господин Каддафи решил помочь своим коллегам-диктаторам избавить их от мучительных поисков "своего, особого пути развития". Дескать, берите мой. И надо заметить, что многое ему удалось. Так, он утверждает, что власть должна принадлежать не партиям, не парламенту, а "всему народу". Руководящие структуры следует заменить народными собраниями, комитетами и референдумами.

Не кажется ли вам, уважаемые читатели, что и у нас, в Беларуси, зажимаются партии, парламент, но частенько проводятся всебелорусские собрания и референдумы? Так что Александр Григорьевич, получается, позаимствовал кое-что из теории Каддафи, а потому вряд ли стоит говорить о каком-то своем, особом белорусском пути.

Но это не шибко страшно. Почти все, кто "разрабатывает" *свой, особый путь развития, или третий путь,* как принято называть, лишь повторяют уже неоднократно сказанное. Тот же Туркменбаши в своей книге "Рухнама", обосновывая особый путь туркмен, просто позаимствовал мысли Мобуту. Разница лишь в том, что последний ссылается на африканский национализм, а царек из Ашхабада — на туркменский. Но оба — за личную роль вождя. Да и Александр Григорьевич, зная это или нет, но "позаимствовал" не только у Каддафи роль народных собраний, но и тезис об опоре на собственные силы у Ким Ир Сена, а также принципы приватизации — у Мобуту. Тот называл свою приватизацию точечной. Выбирал предприятие, затем думал, кому доверить приватизировать его. Таким образом, многие заводы раздал родственникам и приближенным, которые и развалили их работу.

Столетиями теоретики искали вечный двигатель и третий путь. И если проекты вечного двигателя давным-давно даже не принимаются к рассмотрению, то третьим путем до сих пор то в одной части света, то в другой дурят людям головы. Хотя уже первокурсник солидного высшего учебного заведения знает, что в мире, в котором мы живем, правит универсальный закон единства и борьбы противоположностей. Есть положительный заряд и отрицательный, силы притяжения и отталкивания, высокое и низкое, сладкое и горькое... Несмотря на огромную гамму разноцветия, все оно делится на две группы — темную и светлую. То же и в развитии общества, экономики. В последнем столетии мы видели и сейчас видим две противоположные модели экономического развития — рыночное хозяйство и командно-административное. А все потуги на "особый путь" не что иное, как фрагменты этих двух с тем или иным перекосом. Та же "белорусская модель развития" — это попытка оживить командно-административную систему, которая уже "приказала долго жить".

Там, где пошли "особым" или "третьим путем", — нищета и репрессии. В Северной Корее "чучхе" привело страну к казарменному социализму. Рабочие ряда отраслей входят во взводы и роты, живут в казарме и с утра до вечера вкалывают за скудный паёк. Граждане некогда процветающей Кубы бросаются в море, пытаясь вплавь сбежать из страны в соседнюю Америку.

Но зато лидеры таких стран — авторы хоть какой-то идейки, то ли "чучхе", то ли "Рухнамы", то ли "третьего универсального пути"... Им так приятно пожизненно восседать на троне и чувствовать себя лидером международного уровня.

Весь опыт развития человечества убеждает, что главный враг прогресса и причина бесчисленных бед — единовластие и вытекающее из него единомыслие.

Полагаю, что именно понимание этого не вдохновляет белорусских академиков и профессоров на хвалебные трели о белорусской модели развития. Так что, как говорится, это еще большой вопрос, кто плетется и в чьем хвосте. Похоже, что белорусское руководство никак не может выпутаться из бывшего тоталитарного "коммунистического хвоста".

**Иван СЕРГЕЕВ.**

# Ва Украіну можна ехаць без візы, але з дакументамі

У адпаведнасці з Пагадненнем аб бязвізавым уездзе грамадзян Рэспублікі Беларусь ва Украіну і грамадзян Украіны ў Рэспубліку Беларусь ад 17 снежня 1992 года, грамадзяне Беларусі могуць цяпер выязджаць ва Украіну па наступных дакументах:

— пашпарт грамадзяніна СССР ўзору 1974 года з адзнакай аб прыналежнасці да грамадзянства Рэспублікі Беларусь пры ўмове наяўнасці ўклееных фатаграфій уладальніка пашпарту пасля дасягнення ім 25 і 45-гадовага ўзросту;

— пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь узору 1993 года (з гербам "Пагоня") без афармлення для выезду за мяжу;

— пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь узору 1996 года, афармлены ва ўстаноўленым парадку для выезду за мяжу, і без афармлення.

Выезд ва Украіну непаўналетніх грамадзян рэспублікі ажыццяўляецца толькі па пашпарце грамадзяніна Беларусі ўзору 1996 года. Што датычыцца дзяцей, якія не дасягнулі 16-гадовага ўзросту, дык іх выезд ажыццяўляецца па пашпарце, афармленым ва ўстаноўленым парадку для часовых выездаў за мяжу.

Падлеткі, якія дасягнулі 16-гадовага ўзросту, выязджаюць ва Украіну па пашпарце, як афармленым для часовых выездаў за мяжу, так і без афармлення. Пры гэтым непаўналетнія, якія выязджаюць у складзе турысцкіх груп, а таксама самастойна альбо ў суправаджэнні асоб, якія не з'яўляюцца іх законнымі прадстаўнікамі, абавязаны мець пры сабе законных прадстаўнікоў (бацькоў, усынавіцеляў, апекуноў, папячыцеляў і г.д.). Гэты дакумент прад'яўляецца прадстаўніку пагранічных войскаў пры перасячэнні дзяржаўнай мяжы.

Выезд непаўналетніх грамадзян з Рэспублікі Беларусь для лячэння, аздараўлення альбо кансультацыі па гэтых пытаннях можа быць ажыццёўлены з пісьмовай згоды аднаго з законных прадстаўнікоў альбо ў яго суправаджэнні пры ўмове наяўнасці дакумента, што пацвярджае факт выезду за мяжу ў гэтых мэтах.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

# ЮНЕСКА прыглядаецца да Каложскай царквы, Брэсцкай крэпасці і Нясвіжа

Барысаглебская (Каложская) царква XII стагоддзя ў Гродне, мемарыяльны комплекс "Брэсцкая крэпасць-герой" і Нясвіжскі дварцова-паркавы ансамбль XVI—XVIII стагоддзяў з'яўляюцца найбольш імавернымі кандыдатамі на ўключэнне ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА ад Беларусі.

Па стане на 1 студзеня 2003 года ў гэтым спісе лічацца 730 аб'ектаў са 125 краін свету, у ліку якіх — шэдэўры архітэктуры, гістарычныя цэнтры гарадоў, помнікі археалогіі і культурнага ландшафту. Беларусь у гэтым спісе прадстаўлена Белавежскай пушчай і Мірскім замкам.

**Марат ГАРАВЫ.**

# Ад саляной сумесі ў Мінску пацярпелі 1600 дрэў

З-за выкарыстання мінулай зімой саляной сумесі для пасыпання дарог у Мінску пацярпелі 1600 дрэў, у першую чаргу ўздоўж праспектаў Машэрава і Скарыны, кальцавой аўтадарогі, вуліцы Арлоўскай. Пра гэта паведаміў БелаПАН намеснік генеральнага дырэктара па азеляненні "Мінскзелянбуда" Мікалай Аскерка.

У гарвыканкам накіраваны пратакол з заклікам забараніць прадпрыемству "Гаррамаўтадар Мінгарвыканкама" прымяняць саляную сумесь. М.Аскерка ўпэўнены, што гэтая прапанова атрымае падтрымку, інакш "нас чакае тое ж, што ў Маскве", дзе да адмаўлення ад выкарыстання саляной сумесі штогод гінулі дзесяткі тысяч дрэў.

**Лавінія АРЭШКА.**

# Жыхары Гомеля бачылі неапазнаныя лятаючыя аб'екты

Ноччу супрацоўнікі гомельскага даследчага цэнтра "Фаэтон" назіралі неапазнаныя лятаючыя аб'екты над пасёлкам Урыцкае пад Гомелем. Як паведаміў кіраўнік цэнтра Віталій Грабеннікаў, у гэтай зоне ён практычна кожную ноч у яснае надвор'е назірае НЛА.

Лятаючыя аб'екты, звычайна невялікіх памераў, уяўляюць сабой шары серабрыста-белага колеру. Падобны аб'ект напярэдадні, 25 мая, зафіксаваны ў раёне вуліцы Перамогі ў абласным цэнтры.

У чаканні іншапланетных візіцёраў супрацоўнікі уфацэнтра запасліся відэакамерай. І ім удалося правесці здымку НЛА ў 22.55 і 22.58 26 мая і ў 0.29 — 27 мая.

**Алена КАЛАЧОВА.**

# Урачы з Германіі правядуць у Мінску унікальныя аперацыі

Аперацыі пройдуць на базе 9-й клінічнай бальніцы Мінска. Фірма-вытворца "Карл Цэйс" (Германія) бязвыплатна перадала бальніцы унікальны медыцынскі мікраскоп, які дазваляе рабіць найскладанейшыя нейрахірургічныя аперацыі.

Адной з першарадных задач "Моста здароўя Берлін—Мінск" з'яўляецца арганізацыя трохмесячных стажыровак для ўрачоў з Беларусі ў вядучых клініках Германіі. За дзесяць апошніх гадоў стажорамі сталі больш за 80 прадстаўнікоў самых розных кірункаў беларускай медыцыны — абдамінальныя хірургі, анколагі, кардыёхірургі, оталарынголагі, пульманолагі, афтальмолагі, інфекцыяністы, уролагі, гінеколагі, рэўматолагі, мікрахірургі і іншыя спецыялісты.

**Вольга АСІПЕНКА.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

# Минус 149.000

*Пожалуй, точнее всего о реальном состоянии экономики можно судить по тому положению, которое складывается на рынке труда. А его можно назвать сложным и постоянно ухудшающимся.*

Во-первых, в прошлом году по различным причинам численность работающих на предприятиях и в организациях сократилась на 149 тысяч человек. Кто-то из этих людей вышел на пенсию, кто-то стал официально безработным, кто-то решил, что лучше торговать семечками, чем работать за гроши, а кое-кто и вовсе занялся криминальным бизнесом.

Как бы то ни было, работников становится меньше, а едоков больше. В течение года было уволено 890 тысяч человек, принято на работу 751 тысяча человек. Таким образом, соотношение принятых работников к уволенным составило 84% и было самым низким за последние годы. В то же время количество вакансий, заявленных предприятиями, за год сократилось почти в два раза.

Во-вторых, плохие условия труда и низкие заработки вынуждают людей искать лучшие места, но ожидания эти, как правило, не оправдываются. Поэтому очень велика текучесть рабочей силы: общий оборот кадров в экономике страны (сумма принятых и уволенных) составил 45% от среднемесячной численности работников. Причем движение рабочей силы происходит в основном между существующими рабочими местами. А программы создания новых производств, финансируемые из фонда содействия занятости, который формируется из взносов работающих, неэффективны. Поэтому на дополнительно созданные рабочие места было принято чуть более одного процента от общего числа принятых.

Вывод простой и прискорбный: если новые рабочие места не создаются, значит, экономика не развивается.

В-третьих, растет число работников, которые не знают, чем бы им заняться непосредственно на производстве. Поэтому в 2002 году при расчетной норме рабочего времени в 252 дня (включая дни отпуска) в промышленности было отработано в среднем одним работником 208 дней, в строительстве — 218 дней, на транспорте — 223 дня. За счет потерь рабочего времени условно рассчитанная численность ежедневно не работающих составляла 89 тысяч человек (в 2001 году — 76 тысяч). Подчеркнем, что это потери, зафиксированные отделами кадров. А число тех, кого отпускает с работы мастер или бригадир, тех, кто в течение дня перекладывает с места на место бумажки безо всякой пользы для дела, вообще не поддается оценке. Но многие эксперты полагают, что скрытая безработица в промышленности достигает 20 и более процентов. То есть ежедневно на работу выходят более 200 тыс. человек, без которых производство может спокойно обойтись.

Особенностью официального белорусского рынка труда является практически полное отсутствие социального страхования по безработице для большинства категорий безработных. Около половины безработных вообще не имеют права на получение пособий, а средний его размер в январе текущего года составил 20,1 тысячи рублей. Так что легенды о безработных, приезжающих за получением пособий на "мерседесах", к Беларуси никакого отношения не имеют. Понятно, что прожить месяц на такие деньги невозможно. А между тем численность официальных безработных все еще невысока, и размеры вспомоществования можно было бы увеличить. Но наше нищее и жадное государство, похоже, всерьез опасается, что в этом случае в очередь за "бесплатным сыром" встанет полстраны. А задача у него сейчас прямо противоположная. Ему требуется, экономии ради, сократить число нуждающихся в помощи до минимума.

Как говорится, дешево и сердито. Ведь в этом случае можно демонстрировать всему миру низкие показатели безработицы, набирая на этом какой-никакой политический капиталец.

Тем не менее люди идут в госслужбу занятости не только за пособиями, но и за работой. И число их постоянно растет. Только за январь текущего года их численность по сравнению с декабрем увеличилась на 6,9 тысячи человек, или на 5,3 процента. И хоть официальных безработных пока относительно немного (137,4 тысячи), но их численность по сравнению с январем 2002-го увеличилась более чем на 1/4. Если тенденция сохранится, то к концу декабря текущего года можно будет говорить о 200 тысячах.

Если исходить из существующей структуры, то среди них окажутся около 30 тысяч выпускников различных учебных заведений, более 50 тысяч лиц, имеющих высшее и среднее специальное образование, более 120 тысяч женщин и до 100 тысяч молодых людей в возрасте до 30 лет.

Иными словами, белорусские безработные, безусловно, самые грамотные в мире. Безусловно, высшее образование является фактором, препятствующим получению работы. Безусловно, женщины в этом вопросе подвергаются дискриминации. Безусловно, дряхлеющей экономике молодые люди не нужны.

А нужны ли вообще люди этому государству? Похоже, что оно только мирится с их существованием. Как с неизбежным злом.

**Константин СКУРАТОВИЧ.**

ПОГЛЯД

# Без компаса плыве карабель адукацыі...

*Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі ўсё часцей узнімаецца пытанне аб рэформе агульнаадукацыйнай і вышэйшай школы. Калі ўявіць сістэму адукацыі ў выглядзе, скажам, карабля з пасажырамі — навучэнцамі, якія адправіліся ў няблізкі свет за ведамі, то капітанам і ягонымі памочнікамі ў гэтай мадэлі будуць міністр з чыноўніцкім апаратам, педагогі розных устаноў. Лоцманамі тут, канечне, могуць быць толькі навукоўцы, ад якіх залежыць, зможа карабель выйсці на шырокія прасторы ці застанецца дрэйфаваць у бухце. Або наогул сядзе на мель, як было ўжо не раз пры рэфармаванні савецкай школы.*

На жаль, і карабель сённяшняй беларускай мадэлі пачынае трэсці: ёсць нямала такіх, хто ставіць пад сумненне курс карабля, умовы і тэрміны яго плавання.

Наўрад ці рэформа апынулася б у такім становішчы, калі б не было штучнага адасаблення рэканструкцыі навучання ў агульнаадукацыйнай школе, сярэдніх навучальных установах, вышэйшай школе. Калі б падчас падрыхтоўчага перыяду ішло больш грунтоўнае і паўсюднае абмеркаванне яе задач, зместу і тэхналогій. Калі б супадалі мэты рэформы з яе матэрыяльным забеспячэннем з боку дзяржавы.

Некалькі гадоў таму, калі ўсё толькі пачыналася, не раз у друку я спрабаваў узняць хвалюючыя не толькі мяне пытанні. Але не быў пачуты. Непакоюся і сёння. Паколькі з'яўляюся спецыялістам у галіне мастацкага выхавання, то і акцэнт раблю менавіта на ім. І мушу сказаць: дзеля сапраўднай рэформы тут, на жаль, практычна нічога не зроблена, хаця і былі нейкія спробы. Выяўленчае мастацтва ўвайшло ў рэформу з праграмай, якая шмат гадоў таму была распрацавана ў... маскоўскім навукова-даследчым інстытуце і ўдзельнічала яшчэ ў апошняй рэформе савецкай школы. Новым у гэтай праграме з дваццацігадовай барадой аказаліся толькі прозвішчы нібыта яе сучасных аўтараў...

Але вернемся да самой рэформы, да перамен у сістэме адукацыі, якія яна прынесла. Навучанне ў агульнаадукацыйнай школе, згодна з ёю, будзе доўжыцца дванаццаць гадоў. Але пры гэтым у 2002—2003 навучальным годзе са школьнай праграмы за сёмы клас такі прадмет, як выяўленчае мастацтва, знік, а чарчэнне ўвогуле выкідваецца з навучальнага працэсу.

Затое ідзе тыражаванне мастацка-графічных факультэтаў у ВНУ. Раней адзін такі факультэт у Віцебску на працягу сарака гадоў забяспечваў патрэбную колькасць адпаведных спецыялістаў. Цяпер жа Міністэрству адукацыі чамусьці спатрэбілася стварыць у краіне яшчэ тры аналагічныя факультэты. Што, грошы дзяржаўныя няма куды дзяваць? Ці то займаюцца гэтай справай людзі, далёкія ад адукацыі? Каму на карысць перавытворчасць спецыялістаў, праблема іх працаўладкавання ва ўмовах, калі кадры выкладчыкаў гэтых дысцыплін у навучальных установах скарачаюцца?

Цікавым, на першы погляд, з'яўляецца пераход школы на пяцідзённы працоўны тыдзень. Але і тут мне бачыцца шмат недапрацовак. Каму, паглядзім, стала лягчэй? Абібоку, які і раней не надта сябе перагружаў вучэннем? Зараз ён — о радасць! — ходзіць на заняткі толькі пяць дзён. Той жа, хто добра вучыўся і пайшоў дзеля паглыблення ведаў у профільны клас, дык і вучыцца па-ранейшаму — шэсць дзён. Профільныя класы, перакананы ў гэтым, павінны стварацца зусім не як даважка да існуючай навучальнай нагрузкі. Адна з мэтаў дваццацігадовага навучання — разгрузка школьніка. Але на практыцы выходзіць зусім не тое.

Што ж да эстэтычнага выхавання падрастаючага пакалення, то нельга не нагадаць: без яго немагчыма павысіць узровень культуры ўсяго грамадства. Культурны, эстэтычна развіты чалавек па-іншаму, чым невук, ставіцца і да сабе падобных, і да навакольнага асяроддзя, і да працы. Рабочы, у якога сфарміраваны мастацкі густ, проста не зможа дрэнна вырабляць тое, што вырабляе. У Японіі, напрыклад, не лічаць, як у нашым Міністэрстве адукацыі, што вывучэнне выяўленчага мастацтва не прыносіць вялікай карысці школьнікам. У выніку, калі параўнаць узровень жыцця ў нас і Краіне ўзыходзячага сонца, параўнанне будзе відавочна не на нашу карысць.

На жаль, курс, які абрала наша сістэма адукацыі, не дае падстаў меркаваць, што сучасная рэформа школы накіравана на тое, каб наша грамадства рабілася больш цывілізаваным, больш культурным. Не кажу ўжо пра стасункі паміж людзьмі, дзе грубасць, хамства, лаянка сталі паўсядзённасцю. Паказчыкам "высокай культуры" служаць пад'езды дамоў, двары, прыпынкі грамадскага транспарту, лясы, паркі, берагі рэк, азёр. На практыцы мы вельмі часта бачым варварскія адносіны да прыроды, здабыткаў культуры і іншых людзей. Відаць, наспеў час берагчы не проста прыроду і культуру, весці размову з маладымі не проста пра экалогію, а, перш за ўсё, пра экалогію чалавечнасці. На маю думку, да той пары, пакуль грамадства не навучыцца бачыць і цаніць навакольны свет, нам не вырашыць паспяхова і эканамічныя праблемы.

Безумоўна, адны настаўнікі прадметаў эстэтычнага цыкла не вырашаць абазначаныя вышэй задачы. Але тое, што чыноўнікі ад адукацыі без навуковага абгрунтавання скарацілі вывучэнне выяўленчага мастацтва ў агульнаадукацыйнай школе, згадзіцеся, сведчыць аб іх недальнабачнасці і навуковай недасведчанасці.

Канечне, без адпаведных фінансавых укладанняў ні адзін праект немагчыма паспяхова рэалізаваць на практыцы. Па гэтай прычыне і савецкая школа не здолела паставіць выкладанне выяўленчага мастацтва на належны ўзровень. Але было імкненне да гэтага і нямала рабілася на той час у гэтым кірунку, у тым ліку і ў плане матэрыяльнага забеспячэння. А сёння? Зараз студэнт мастацка-графічнага факультэта на сваю стыпендыю можа купіць, напрыклад, толькі адзін набор акварэльных фарбаў ды некалькі алоўкаў...

Фота IREX/ProMedia.

Добрыя словы сённяшніх рэфарматараў, лічу, разыходзяцца з канкрэтнай справай: замест захавання ў сучаснай школе ўжо назапашанага станоўчага педагагічнага вопыту ён проста ігнаруецца. Многа пытанняў асабіста ў мяне выклікае ацэнка ведаў школьнікаў, у прыватнасці, дзесяцібальная сістэма. Навошта з былой пяцібальнай, дзе фактычна "працавала" ўсяго тры балы, у новых умовах зноў прапанавалі дзве ранейшыя адмоўныя адзнакі? Калі пераходзіць ужо на новую сістэму, то, відаць, разумней улічваць кожны бал, а не пераводзіць іх фактычна на аналагі былых "троек", "чацвёрак", "пяцёрак".

Чалавек, на маю думку, каб стаць асобай, з першых крокаў свядомага жыцця мае патрэбу ў справядлівай ацэнцы ведаў, сваіх паводзін і вынікаў працы. Гэта тычыцца і вучняў першых і другіх класаў, якім зараз адзнакі не выстаўляюцца.

Ну, а наконт дванаццацігадовага навучання ў школе, то наўрад ці гэтая ідэя слушная. Ці зможа наша, мякка кажучы, небагатая дзяржава вытрымаць такую нагрузку, забяспечыць школе нармальныя ўмовы для вучэбнага працэсу? Цяперашні стан сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны і матэрыяльнае становішча навучальнай базы не даюць асабіста мне падстаў для аптымістычных прагнозаў. Не будзем забываць і пра дэмаграфічную яму, да якой набліжаецца наша грамадства.

Не можа не выклікаць трывогу актыўны курс сістэмы адукацыі на платнае навучанне. Канешне, і агульнаадукацыйная школа, і каледжы, і вышэйшыя навучальныя ўстановы павінны аказваць насельніцтву платныя паслугі. Тым не менш сістэма адукацыі, прабачце, — не "блышыны рынак", дзе можна зарабіць шмат грошай. Практыка паказвае: студэнты, якія займаюцца на платнай аснове, не вельмі імкнуцца пашыраць свае веды. Яны не маюць стымулаў для вучобы. І ў рэшце рэшт краіна будзе атрымліваць спецыялістаў не вельмі высокага ўзроўню.

Нельга сказаць, што кіраўніцтва дзяржавы не ведае аб гэтых набалелых праблемах. Тое, што на капітанскім масціку карабля адукацыі за апошняе дзесяцігоддзе трэці кіраўнік, шмат аб чым гаворыць. Такая перастаноўка жаданых вынікаў пакуль не дае, і само сабой узнікае пытанне: куды плывеш, карабель адукацыі?

Выказваючы свае меркаванні, я ні ў якім разе не стаўлю пад сумненне саму ідэю рэфармавання зместу навучання. Але працэс гэты, на маю думку, эвалюцыйны, бесперапынны і не любіць шуму і мітусні, характэрных для колішніх савецкіх рэформ.

**Рыгор ФЯДЗЬКОЎ,**
**дацэнт кафедры выяўленчага мастацтва Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П.М.Машэрава, кандыдат педагагічных навук.**

# Автомобиль МАЗ-4370 признан лучшим грузовиком России

В Москве завершила работу 4-я Международная демонстративная выставка "Коммерческий автотранспорт". Отличительной особенностью этой выставки является то, что все выставляемые образцы техники можно тут же проверить в деле. Кроме того, выставка известна тем, что на ней оглашаются результаты голосования авторитетного жюри конкурса "Лучший коммерческий автомобиль года в России". Российский конкурс является аналогом европейского конкурса "Грузовик года", и его итоги имеют значительный вес.

В 2003 году конкурс проходил по семи номинациям. Лучшим отечественным грузовиком 2003 года в России с результатом 28 баллов признан среднетоннажный грузовик МАЗ-4370 производства Минского автомобильного завода. Точнее сказать, победу одержало целое семейство грузовиков этого класса. Сегодня на шасси этого автомобиля выпускаются не только фургоны, но и самосвалы, эвакуаторы, автоцистерны, коммунальные машины и прочее. Был сделан даже опытный экземпляр автобуса.

**Николай ИВАНОЧКИН.**

СУСТРЭЧЫ

*Калі ў двух словах паспрабаваць даць характарыстыку майму суразмоўцу Тарму Таммерку, то гэта — эстонец, які ламае стэрэатыпы. Так уж склалася, што да нашых былых паўночных суграмадзян па былым СССР мы звычайна ставімся, як да вельмі, так бы мовіць, крытычна ўзважлівых, марудлівых, нават крыху затарможаных людзей.*

*Кіраўнік эстонскага Саюза газет сп. Таммерк не адпавядае гэтаму стэрэатыпу. Мы пазнаёміліся з ім у Казахстане на 2-м Еўразійскім медыя-форуме, і я быў, шчыра кажучы, вельмі здзіўлены, калі бачыў, як Тарму з лёгкасцю ўвязваецца ў розныя жыццёвыя авантуры, цудоўна спявае, неяк не па-эстонску па-заліхвацку танчыць і наогул з'яўляецца душой кампаніі. Тарму з задавальненнем згадзіўся адказаць на мае пытанні і распавесці пра тое, чым дыхае зараз эстонская прэса і сучаснае эстонскае грамадства.*

## *Тарму ТАММЕРК:*

# «Беларусы засталіся стаяць на каленях»

**— З якой мэтай стваралася арганізацыя пад назвай "Саюз газет Эстоніі", якой Вы кіруеце?**

— Саюз газет Эстоніі з'явіўся на свет у 1989 годзе напярэдадні ўзнаўлення незалежнасці нашай краіны. Будавалася структура па мадэлі саюзаў газет нашых суседзяў, напрыклад, Фінляндыі. Мы ўсё ўзважылі і вырашылі, што фінская мадэль — гэта такая мадэль, якая працуе добра. На эстонскім медыя-рынку вельмі моцная канкурэнцыя, і наш саюз дзейнічае ў сумесных інтарэсах усіх газет.

**— Што гэта за інтарэсы?**

— Ёсць некаторыя рэчы, якія нашы газетчыкі хочуць рабіць разам, — напрыклад, лабіраваць урад, ці, іншымі словамі, прасоўваць свае інтарэсы праз кіраўніцтва краіны, садзейнічаць унясенню змен у заканадаўства, якое тычыцца прэсы, падаткаў і г.д. У Эстоніі газеты не плацяць падатак з абароту, як у іншых краінах, хаця для астатніх прадпрыемстваў ён складае ў нас 18%. Гэта, я лічу, справядліва, таму што ўрад не павінен уводзіць падатак на інфармацыю. Пасля чарговых выбараў знаходзяцца заўсёды палітыкі, якія хочуць увесці падатак для прэсы. У такім выпадку мы ўключаем усе рэсурсы Саюза газет, каб захаваць існуючы статус-кво і не дапусціць увядзення гэтага падатку.

У свой час Саюз газет таксама быў лакаматывам стварэння закона аб рэкламе: мы ініцыявалі распрацоўку адпаведнага законапраекта перад урадам. Яны сказалі "о'кей" і пачалі гэтым займацца, а нашых прадстаўнікоў уключылі у рабочую групу. Гэта быў першы выпадак, дарэчы, калі недзяржаўная арганізацыя была ўключана ў рабочую групу па распрацоўцы законапраекта. Гэтым мы і займаемся.

**— Вядома, што ў многіх былых рэспубліках Савецкага Саюза існуе шмат фактаў пераследу незалежных журналістаў за іх пазіцыю. У нашай краіне, напрыклад, вашы калегі з Беларускай асацыяцыі журналістаў актыўна займаюцца прававой абаронай пераследуемых. У вас ёсць праблемы падобнага кшталту?**

— Займаемся, але на агульным узроўні, калі можна так казаць. Мы даем, канешне, індывідуальныя парады журналістам. Але асноўная наша праца, хачу зноў падкрэсліць, — гэта праца с заканадаўствам. Напрыклад, раней у Эстоніі існаваў крымінальны пераслед журналістаў за паклёп. Адпаведная норма існавала ў Крымінальным кодэксе, якая не знаходзіла, шчыра кажучы, падтрымкі ў Савеце Еўропы. Артыкул "Паклёп", на думку еўрапейцаў, павінен быў перанесены ў Адміністрацыйны кодэкс. Мы ў Саюзе газет Эстоніі падтрымалі прапанову Савета Еўропы і звярнуліся ў парламент. Парламент зрабіў адпаведную папраўку ў закон.

**— І што цяпер?**

— Цяпер, калі журналіст ці газета ў Эстоніі робяць памылку ці друкуюць недакладную інфармацыю і суд вырашае, што меў месца выпадак паклёпу, то журналіст ці газета будуць пакараны на базе Адміністрацыйнага кодэкса.

**— Што гэта азначае?**

— Гэта азначае, што я магу заплаціць штраф, але ні ў якім выпадку не магу трапіць у турму і атрымаць статус крымінальніка. Такой рэальнасці, калі за сваю працу журналіст можа трапіць у турму, у Эстоніі больш не існуе. І гэта мяне радуе. Але штрафы за паклёп, трэба прызнаць, даволі вялікія.

**— А калі эстонскі журналіст крытыкуе ўрад за яго працу, ці можа ён стаць аб'ектам прымянення нейкіх рэпрэсій ці санкцый?**

— Не, такое немагчыма ўвогуле. Пакаранне магчыма выключна, калі ёсць факт паклёпу...

**— Выступаючы на форуме, Вы сказалі, што ганарыцеся тым, што ў вас, у Эстоніі, няма закона аб сродках масавай інфармацыі. Вы сур'ёзна?**

— Я думаю, што мець у дзяржаве нейкі закон пра СМІ — бессэнсоўна. Замест такога закона патрэбны, на мой погляд, сістэма самарэгуляцыі і закон пра доступ да афіцыйнай інфармацыі. Закон пра такі доступ існуе ў Эстоніі і прызначаны для ўсіх грамадзян, а не толькі для журналістаў. Я не разумею, навошта наогул уводзіць у дзяржаве нейкія нормы для таго, напрыклад, каб зарэгістраваць сродак масавай інфармацыі, асабліва друкаваны. Яны непатрэбны ў свабодным грамадстве! І ўсё гэта адбываецца ў адпаведнасці з агульнымі сусветнымі тэндэцыямі, калі нейкіх глабальных, рамкавых законаў па СМІ больш не робяць. А калі яны, такія законы, ўжо існуюць, то робяць захады, каб іх ліквідаваць, адмяніць. Яскравы прыклад — Германія. Як у вас кажуць, калі на сцяне вісіць стрэльба, яна калі-небудзь выстраліць. Мы ў Эстоніі гэтую стрэльбу са сцяны знялі. І гэтым я ганаруся.

**— А што Вы можаце сказаць наконт электронных медыя ў вашай краіне?**

Тэлерадыёвяшчанне — гэта крыху іншая справа. У нас існуе адпаведны закон, які рэгулюе размеркаванне частот. Таму, я лічу, патрэбны нейкі дзяржаўны орган, які будзе займацца гэтым пераразмеркаваннем. Іншая справа, яшчэ раз падкрэслю, газеты. У Эстоніі зараз, калі ты адкрываеш газету, ты не павінен не толькі яе недзе рэгістраваць, а табе наогул непатрэбна інфармаваць пра гэта ні дзяржаву, ні каго іншага. У Эстоніі адкрыць газету — тое ж самае, што адкрыць бар ці краму. Адкрыў і працуй! Трэба толькі зарэгістраваць фірму, якая будзе газету выдаваць...

**— У нас, у Беларусі, незалежных журналістаў афіцыйныя асобы даволі часта абвінавачваюць у тым, што яны быццам прадаліся Захаду. А ў вас бывае такое?**

— Не, у нас такога не бывае. Канешне, палітыкі амаль увесь час крытыкуюць прэсу. Аднак, як я гэта называю, усё праходзіць у рамках цывілізаванай камунікацыі. Час ад часу палітыкі гавораць, што той ці іншы журналіст падкуплены. Але ніколі — што падкуплены Захадам. Справа ў тым, што ў нас арыентацыя заходняя, і Захад — не лаянкавае слова. Наадварот, кажуць, што Эстонія стаіць спінай да Расіі. Адносіны паміж Расіяй і Эстоніяй даволі прахалодныя. Расія, напрыклад, не хоча падпісваць дамову пра межы с Эстоніяй... Часам нашы палітыкі могуць думаць, што той ці іншы журналіст падкуплены расійскімі спецслужбамі, але не Захадам.

**— Вы — даволі ўплывовы чалавек у Эстоніі. А наколькі Вы ведаеце сітуацыю ў Беларусі? Як ацэньваеце яе?**

— Пра Беларусь у Эстоніі гавораць, шчыра кажучы, не вельмі шмат. Нам падаецца, што Еўрасаюз, Злучаныя Штаты, наогул Захад адвярнуліся ад Беларусі і свядома ігнаруюць праблемы з дэмакратыяй у вашай краіне. Мы лічым, што на Захадзе баяцца нейкім чынам раззлаваць Пуціна і хочуць, каб адносіны "Пуцін—Захад" былі вясёлкавыя. Іншая прычына абыякавасці Захада да вашай краіны, як мы бачым у Эстоніі, гэта слабасць беларускай апазіцыі. Пра гэта мне паведамлялі дыпламаты ў Савеце Еўропы. Яны казалі, што не могуць нічога рабіць, таму што ў Беларусі няма глебы, на якую можна абапірацца. А імпартаваць у Беларусь дэмакратыю яны не хочуць. Калі будзе патрэба, яны гатовы дапамагчы. Я ведаю, што пяць год таму ў Еўропе існавалі вялікія праграмы па падтрымцы дэмакратыі ў Беларусі, зараз многія з іх фактычна скасаваны.

**— А як звычайныя людзі ў Эстоніі ставяцца да нашай краіны?**

Калі эстонцы гавораць пра Беларусь, то ў першую чаргу маецца на ўвазе тое, што беларусам не ўдалося выкарыстаць сваю незалежнасць. У той час, калі іншыя нацыі схапіліся за незалежнасць і актыўна пачалі працэс адраджэння і развіцця сваіх краін, беларускія кіраўнікі, нам здаецца, толькі глядзяць у крамлёўскі рот і чакаюць, што ён вымавіць. Адным словам, калі іншыя народы былога СССР падняліся ў поўны рост, беларусы засталіся стаяць на каленях. Беларусь стаіць на месцы, не рухаецца наперад. Мы часам не разумеем ваш народ. І задаем сабе пытанне: што там, з беларусамі? Чаму яны нічога не робяць? Так у нас гавораць эстонцы пра беларусаў у неафіцыйнай абстаноўцы, калі, напрыклад, п'юць піва...

**— Дзякуючы чаму эстонцам удалося паўстаць з каленяў? Вашаму менталітэту ці невялічкім памерам краіны?**

— І таму, і другому. Маленькі аўтамабіль лягчэй прыпаркаваць, маленькую нацыю лягчэй накіраваць у напрамку дэмакратыі. І, як вы сказалі, эстонскі менталітэт адрозніваецца ўсё ж такі ад вашага. І адрозніваецца ў значнай ступені дзякуючы таму перыяду незалежнасці працягам у дваццаць гадоў, які ў нас быў паміж дзвюма сусветнымі войнамі. І калі на пачатку 90-х гадоў дзверы ў незалежнасць і дэмакратыю зноў адчыніліся, то для нас зноў пачалася вясна, і мы радасна ўскочылі ў гэтыя дзверы.

**— У Эстоніі, як мне здаецца, занадта шмат палітычных партый і рухаў...**

— У нас зараз вельмі папулярная прымаўка: "Любімая страва эстонца — гэта іншы эстонец". Увесь час крытыкуем адзін аднаго, але гэта не перашкаджае ў цяжкія часы быць разам.

**— А ці магчыма вяртанне Эстоніі назад, да савецкага "светлага" мінулага?**

— Да аўтарытарных метадаў вяртанне, канешне, магчымае. Калі ўрад Эстоніі працягне актыўна рэфармаваць эканоміку, заўсёды знойдуцца папулісты, якія прапануюць народу хуткія шляхі вырашэння ўсіх праблем — напрыклад, прызначыць цара. Але ў любым выпадку гэта ўжо будзе не вяртанне да савецкага мінулага.

**— Іншымі словамі, шмат што залежыць ад эканамічнага ўзроўню ў краіне, ад поспехаў рэформ?**

— Безумоўна.

**— Тарму, у завяршэнне нашай размовы давайце адыдзем крыху ад сур'ёзнага. Вы так ліха нядаўна танчылі з дачкой прэзідэнта Казахстана Дарыгай Назарбаевай. Мне падалося, што Вы незвычайны эстонец і разбуральнік старых стэрэатыпаў. Ці так гэта?**

— Мы ведаем пра гэты стэрэатып. І, прызнаюся, ён часткова апраўданы. Эстонцы — даволі стрыманы народ. Калі ў купэ цягніка, напрыклад, уваходзіць рускі, ён амаль адразу пачынае знаёміцца: "Привет! Меня зовут Егор! Я еду в Воронеж! У меня в Тамбове женщина!" Эстонцы не такія. Калі я бачу, што у вас існуе інтарэс да мяне, я адкрываю сябе, і мы будзем сябраваць. Калі не — я вам дакучаць не буду. Эстонцы выбіраюць, у рэшце рэшт, час, калі ім раскрывацца. Я лічу, што гэта нармальна.

**Гутарыў Алесь СІЛІЧ.**

ДАЙДЖЕСТ

## В Канаде во время тренировочного полета разбился истребитель F-18

Пилот погиб. Самолет, входивший в состав 416-й тактической эскадрильи, базирующейся в городе Колд Лейк, провинция Альберта, участвовал в международных учениях. По предварительным данным, причина катастрофы — плохие погодные условия. Тело пилота было найдено в 200 метрах от места катастрофы, он пытался катапультироваться.

В настоящее время в Канаде проходят учения под названием "Операция кленовый флаг", в которых принимают участие самолеты военно-воздушных сил Канады, США, Бельгии. Франции и других стран. В 2003 году в тренировочных полетах должны участвовать более 3 тысяч самолетов.

## В подвале центробанка Ирака нашли 250 миллионов долларов

Американские военные в Ираке обнаружили 250 миллионов долларов, которые находились в затопленном подвале Центрального банка. Глава временной гражданской администрации Ирака Пол Бремер заявил, что деньги, находившиеся под водой, не были повреждены. Он также сообщил, что деньги принадлежали Центральному банку Ирака. Однако Бремер отказался предположить, откуда банком были получены эти средства. Иракские банкиры сообщили, что перед началом войны в Ираке министр финансов и активисты партии "Баас" перевели около 1 миллиарда долларов из Центрального банка в различные банковские отделения для обеспечения их сохранности.

## Литва направляет в Ирак 130 миротворцев

Сейм Литвы одобрил решение комитета гособороны страны направить в Персидский регион около 130 военнослужащих для выполнения миротворческой миссии. Им предстоит действовать в составе датских или польских контингентов. Кроме того, более 80 строительных фирм Литвы готовы принять участие в восстановительных работах в Ираке. Для определения подрядчиков будет проведен тендер.

## Жители Индии умирают от жары

По меньшей мере 430 человек умерли в Индии за последние две недели под воздействием необычайно жарких погодных условий. По мнению руководителя вспомогательного центра штата Андхра-Прадеш, число смертей, вызванных обезвоживанием организма, солнечными ударам и недостатком питьевой воды, может увеличиться.

В эти дни в больницах штата находятся сотни людей, для которых температура воздуха около 47 градусов оказалась слишком тяжелым испытанием. В прошлом году жертвами невыносимой жары стали около 1000 жителей Андхры-Прадеш.

## Ниязов записал в террористы начальника Генштаба Туркменистана

Президент Туркменистана Сапармурат Ниязов поручил следственной комиссии, занимающейся делом о попытке государственного переворота в ноябре 2002 года, еще раз тщательно изучить этот вопрос. В причастности к заговору был обвинен еще один высокопоставленный чиновник. Личным указом Туркменбаши был отстранен от должности первый заместитель министра обороны, начальник Генштаба ВС республики, командующий ВВС генерал-полковник Сердар Чарыяров. В официальном документе названа причина — "за серьезные недостатки в работе".

При этом, выступая на совещании в Минобороны, президент республики заявил, что "Чарыяров причастен, по имеющимся сведениям, к преступной группировке террористов. Поступили также сведения о том, что он принимал самое непосредственное участие в преступной сделке с продажей пяти военных самолетов Су-17, которую в свое время организовал и осуществил террорист Борис Шихмурадов (бывший вице-премьер республики)".

Мнение президента поддержал министр обороны Реджепбай Аразов, в своем выступлении по Национальному телевидению он сказал про своего бывшего заместителя: "Чарыяров знал о намерениях Шихмурадова и его клики совершить государственный переворот, совершить покушение на президента Туркменистана и насильственно свергнуть и изменить существующий конституционный строй страны. Он обещал им содействие армии в этом преступлении, за что ему была обещана должность министра обороны".

## Беженец из Ирана зашил глаза и уши назло британским властям

Иранец курдского происхождения, проживающий в Ноттингеме, зашил себе веки, рот и уши. Таким образом 33-летний Абас Амини выразил протест против политики Министерства внутренних дел Великобритании в отношении иммигрантов. Сейчас Амини проводит голодовку и, по словам медиков, может умереть в ближайшие дни. Два месяца назад иранцу было предоставлено политическое убежище, однако позже Министерство внутренних дел приняло решение о пересмотрении дела Амини.

Абас Амини утверждает, что в случае возвращения в Иран ему грозит смертная казнь за его прошлую политическую активность. Беженец отказывается от всякой медицинской помощи и заявляет, что не прекратит свою акцию протеста до отмены решения Министерства внутренних дел об апелляции.

## Незаконно отчеканенную монету оценили в миллион долларов

Владельцы двух галерей из американского штата Нью-Хэмпшир готовы заплатить миллион долларов за никелевую монету достоинством в 5 центов. Пятицентовая монета с изображением головы статуи Свободы выпускалась в США с 1883-го по 1912 год. В 1913 году пять таких монет были отчеканены незаконно и стали большой нумизматической редкостью. По одной из версий, последним владельцем разыскиваемой монеты стал житель Северной Каролины, в 1962 году погибший в автомобильной катастрофе.

ГЕРМАНИЯ СЕГОДНЯ

# Не думай, что тебя это не коснется

*Уровень жизни в той или иной стране, степень заботы правительства о народе во многом определяется тем, какую помощь получают граждане с ограниченными возможностями. На днях "Немецкая волна" передала материал о жизни слабослышащих в ФРГ. Ниже приводим основные фрагменты передачи. Надеемся, они помогут читателям газеты лучше понять соседнюю страну.*

Общение является тяжелейшей работой для человека с поврежденным слухом. Он пытается понять, что вы сказали. Простое раскованное общение попросту невозможно, когда человек ерзает на краешке стула, вслушивается из последних сил, все время спрашивает себя, *"правильно ли я его понял?"*, и все время переспрашивает собеседника, *"извините, что вы сказали?"* А в конце — в конце думаешь только об одном — как остаться одному и хоть немного восстановить дыхание..."

Слабослышащие во всем мире нуждаются не только в технической помощи для организации самого процесса общения, но и в психологической поддержке — с первых часов, когда становится ясно, что теряет или потерял слух.

Согласно данным одного из самых посещаемых в Германии веб-портала слабослышащих и глухих, в ФРГ насчитывается для них более 50 специальных школ-интернатов. В некоторых городах — Берлине, Гамбурге, Мюнхене — по две-три таких школы.

Кроме того, в 6 городах Германии — Берлине, Виннендене, Лейпциге, Мюнхене, Нойвиде и Нюрнберге — имеются специальные учебные заведения, готовящие двуязычных преподавателей, одинаково хорошо владеющих обычной речью и языком жестов. В этих и нескольких других городах (в основном — в федеральной земле Северный Рейн-Вестфалия) работают также специальные учебные заведения по повышению квалификации как слабослышащих и глухих, так и работающих с ними других педагогов.

По различным специальностям, так или иначе касающимся интеграции слабослышащих и глухих в обществе, — от лингвистики языка жестов до психологии слухового восприятия и профессиональной ориентации людей с пониженным слухом, — готовят специалистов в нескольких университетах ФРГ. В Университете имени Гумбольдта в Берлине, в университетах Гамбурга, Гейдельберга, Кельна и Мюнхена есть отделения сурдопедагогики. В Гамбургском университете действует, кроме того, Институт немецкого языка жестов и коммуникации глухих.

В нескольких городах Германии и других немецкоязычных стран имеются частные образовательные центры, оказывающие поддержку семьям, слишком поздно обнаружившим, что поражение слуха имеется у школьника или настигло подростка. Так, в центрах поддержки детей с поврежденным слухом в Бамберге и Гамбурге первоклассникам предлагается 4-часовая двуязычная поддержка, а в школе имени Фридриха Листа во Франкфурте-на-Майне слабослышащим детям предлагается полный перевод урока на язык жестов.

Именем **Маргариты фон Вицлебен** назван берлинский интернат для слабослышащих детей. Фон Вицлебен начала быстро терять слух в возрасте 12 лет. Благодаря природной склонности к литературе, а также встречам с внимательными священнослужителями Маргарита внимательно фиксировала все стадии погружения в беззвучное одиночество. *"Тот, кто сегодня еще наделен слухом, может завтра оглохнуть. Не думай, что эта напасть минует тебя одного. Но эта зависимость от рока так унизительна для нас, людей"*, — писала она.

*"Главное — не прячь глухоты от себя и от других. Признайся в том, что ты слышишь плохо или вовсе лишен слуха. Это будет первым твоим шагом от одиночества".* Слова Маргариты фон Вицлебен как никогда актуальны именно сегодня.

Бурное распространение, которое получили современные звуковоспроизводящие устройства — от плейеров до мощных динамиков, сотрясающих не только органы слуха, но и весь организм человека, — приводит к тому, что для все большего числа подростков понижение слуха становится причиной снижения качества жизни. И хотя обширная программа поддержки слабослышащих и глухих адресована не этой категории граждан, касается она всего общества, в котором столь многие говорят, что мечтают о тишине, но не все догадываются, что это такое.

**Подготовил к печати Иван ПЕТРОВ.**

## *Ольга АНДРЕЕВА:*

# «Мы толерантные, но очень уж злые...»

*"Толерантные", "рассудительные", "душевно щедрые" — так характеризовали белорусов другие советские народы и друзья по социалистическому лагерю. Как явствует из идеологических тезисов лидера страны, мы также носители православных традиций и обладатели той загадочной и ценной субстанции, которая именуется славянской душой.*

*Друг другу, впрочем, мы часто жалуемся на агрессивность, недоброжелательность, невоспитанность земляков. При случае искренне сетуем на разобщенность белорусов и отсутствие объединяющей народ идеи.*

Так какие же мы? О психологическом портрете белорусского общества — беседа с известным минским психологом **Ольгой АНДРЕЕВОЙ.**

**— Ольга, почему наш парадный портрет так разительно отличается от физиономии, которую каждое утро приходится разглядывать в зеркале?**

— Потому что он создавался на экспорт. Так себя позиционировал белорусский народ при социализме. Это был удобный имидж для белорусов, потому что составлял о нас мнение как о неопасных соседях, тем самым обеспечивая нашу безопасность. Этот имидж очень нравился и советскому руководству. И потом, это давало воспитательный эффект: если человеку с детства твердить, что он умница и такой спокойный, ему не захочется разочаровывать окружающих. И белорусы изо всех сил соответствовали своему образу.

**— Ты семейный психотерапевт, поэтому раньше многих способна разглядеть болезни и пороки развития первичной ячейки общества...**

— Мне редко встречаются счастливые люди и гармоничные семьи. В семейных отношениях часто вижу гиперактивную женщину, которая агрессивно и напористо идет по жизни, оправдывая это интересами семьи и детей. Рядом с ней обычно малоинициативный, склонный к злоупотреблению спиртными напитками неудачник-мужчина.

Как это ни печально, белорусы выглядят в целом как нация неудачников, основное настроение которых — выжить, перетерпеть, запастись, переждать. Многие хотят из страны уехать: по данным социологов, это сделали бы, если бы их что-то не удерживало, около 70 процентов сегодняшних 18-летних и примерно 40 процентов людей старше сорока лет. Самая смелая, талантливая и активная молодежь действительно уезжает, причем не обязательно на Запад, часто в соседнюю Россию. Старшее поколение остается, и эмоциональное состояние, вызванное желанием покинуть страну, остается с ним здесь. Очень мало среди нас людей, которые верят в оптимистичное будущее. В обществе мало молодой энергии.

**— То есть той синеокой красавице Беларуси с льняными косами, о которой писали советские поэты, сейчас, наверное, слегка за пятьдесят?**

— Если не больше. В нашем обществе традиционно сильны настроения, в основе которых лежит социальное иждивенчество. Это результат многолетнего доверия властям, убеждения, что государство даст работу и квартиру, а при должном усердии позволит скопить на машину. Старшее поколение и сегодня безоговорочно доверяет властям, ожидая от них ответной заботы. Многие десятилетия белорусы жили, не ощущая личной ответственности за свою жизнь.

В какой-то момент, перечитывая Библию, я задумалась, почему Моисей 40 лет вел свой народ из Египта на землю обетованную. Где они ходили, если это расстояние способен преодолеть отряд скаутов? Оказывается, Моисей ждал, когда сменятся поколения и умрут носители рабской психологии...

**— Ему было проще: кругом пески, и молодежи удирать некуда.**

— Поэтому столь пессимистичны мои наблюдения. Неверие в будущее обессмысливает любую деятельность, порождает депрессию. Она характерна для старшего поколения, чей жизненный путь обесценился, и для среднего, которое не смогло вписаться в рыночные отношения, потому что усвоило со школы: "конкурировать плохо", "торговать стыдно", "воспитанные люди не говорят о деньгах" и тому подобные постулаты. Большинство белорусов не умеют взглянуть на себя как на участников рыночных отношений. Они пытаются строить свою жизнь исходя из желаний и фантазий, а не из потребностей современного рынка.

**— Приходится слышать, что славянской душе не свойственны мысли о собственной выгоде.**

— Иногда есть попытки использовать такое понимание славянской души для продвижения отечественных товаров недостаточно высокого качества. А если серьезно, то до революции 1917 года многие славяне на белорусской земле весьма успешно вели бизнес. Нам навязали уже в советское время убеждение, что думать о деньгах — "недуховно".

Я бы восхищалась белорусским трудолюбием, если бы люди стремились получать достойное вознаграждение за свою работу. Наши земляки порой работают, не задумываясь об эффективности своего труда. Самый распространенный пример — загородные участки, на которых горожане просиживают почти все летние выходные дни и отпуск ради нескольких мешков овощей. Затраты на огород часто превышают экономию от урожая, ведь овощи осенью можно купить почти за бесценок. Но пригородные электрички полны дачниками, которым страшно не работать — с детства усвоено, что в таком случае не полагается есть.

**— Кстати, о душе и духовности. Мы действительно верующие православные люди?**

— По-моему, основная часть нашего народа живет не логикой, а именно верой, причем простодушно-языческой. Самая мощная ветвь русской философии развилась в рамках религиозной традиции и подарила миру Бердяева, Шестова, Флоренского и многие другие имена. Наша сегодняшняя вера иная — без поисков духовности, скорее — обусловленная поиском простого способа спасения, желанием поручить себя некой высшей силе. С ней словно заключается сделка: я посещаю церковь и соблюдаю ритуалы, а Ты — спаси и сохрани. Поэтому так легко произошла смена идеалов, и сотни тысяч недавних строителей коммунизма сейчас стоят в очередях за святой водой.

**— Какое, на твой взгляд, чувство наименее знакомо белорусскому человеку?**

— Чувство собственного достоинства. Когда я говорю о нем своим клиентам, то нередко вижу непонимание в их глазах. Они легко дадут определение самолюбию — самой уязвимой части нашей души. Но осознать собственную уникальность и ценность, которая не зависит от количества побед и достижений, им порой непросто.

Это закономерно — нам, людям среднего и старшего возраста, всю жизнь говорили, что мы никто, что "голос единицы тоньше писка". Сейчас люди спокойно унижают друг друга с телеэкрана, причем эта недоброжелательность транслируется с самого высокого уровня. Тот, кто заявляет о своем достоинстве, чаще всего сталкивается со встречным желанием доказать, что он — никакой не особенный, что его можно унизить.

При скученности в городах и квартирах мы духовно разобщены. Нет идеи, которая объединила бы нас в один народ. Лозунги партий мало кого привлекают — партии и движения в Беларуси малочисленны и не имеют реальной силы. Женщины страдают от груза семейных проблем, но не поддерживают друг друга. Недоброжелательность, отсутствие интереса друг к другу мешают взаимоотношениям мужчин и женщин, взрослых и детей.

Наши внутренние психологические проблемы настолько глубоки, что стали тормозом для развития страны...

**— Сейчас мы предложим всем белорусам пройти курс психотерапии?**

— Депрессию конкретного человека и отдельно взятой страны можно победить, если есть на то желание, время и убеждение в том, что в конце каждого тоннеля обязательно будет свет.

**Беседовала Ирина ДЕРГАЧ.**

*("Белорусские новости".)*

ПРАЧЫТАЙЦЕ

# Вядомы і незнаёмы Булгарын...

*У "Беларускім кнігазборы" — навінка: выйшаў з друку і з'явіўся на паліцах кнігарняў чарговы том серыі — "Выбранае" Фадзея Булгарына, беларуса, які стаў, поводле вызначэння В.Бялінскага, "бацькам рускага рамана".*

У гісторыі рускай літаратуры Фадзей Булгарын малюецца звычайна чорнай фарбай. Пераважна за яго журналісцкую дзейнасць і выданне масавых праўрадавых газет і часопісаў, у якіх ён выказваў вернасць царызму і крытыкаваў прагрэсіўных дзеячаў культуры. Асабліва скампраметаваў ён сваё імя супрацоўніцтвам з III аддзяленнем царскай канцылярыі, куды накіроўваў розныя "аналітычныя запіскі". Ф.Булгарын быў аб'ектам з'едлівых эпіграм А.Пушкіна, П.Вяземскага, М.Някрасава і іншых рускіх паэтаў. Сатырычны вобраз "рэдактара ўсіх газет" намаляваны і ў славутай беларускай паэме "Тарас на Парнасе".

Убачыць сапраўднага, а не карыкатурнага Ф.Булгарына дапаможа аднатомнік выбраных твораў гэтай неардынарнай і неадназначнай асобы.

Чым цікавы Ф.Булгарын для нас, беларусаў?

Найперш тым, што ў сваёй творчасці расказаў пра сваю радзіму — Беларусь у той час, калі ўласна беларуская літаратура ў выніку неспрыяльных для яе ўмоў па сутнасці маўчала. Асабліва шмат цікавых рэалій з гісторыі Беларусі знойдзе чытач у змешчаных у аднатомніку "Успамінаў" пісьменніка, што прыпадаюць на яго дзяцінства, у "Дарожных нататках з Дэрпта ў Беларусь і назад вясной 1835 года", у раздзелах самага значнага яго твора — рамана "Іван Выжыгін", у артыкулах і лістах.

Не менш цікава даведацца пра беларуска-рускія літаратурныя ўзаемадачыненні першай паловы XIX ст., пра ўдзел у грамадскім жыцці Расіі выхадцаў з Беларусі — такіх жа, як і Булгарын, "літвінаў" Ф.Малеўскага, В.Пшэцлаўскага, М.Маліноўскага, В.Сянкоўскага ("Барона Брамбеуса"), А.Міцкевіча, А.Г.Кіркора і іншых.

Як прадстаўнік беларускай апалячанай шляхты, якая спадзявалася на аднаўленне Вялікага княства Літоўскага ў складзе Рэчы Паспалітай, Ф.Булгарын удзельнічаў у паходзе Напалеона Банапарта на Маскву ў 1812 годзе. У кнізе даюцца ўспаміны пра вельмі цікавую сустрэчу з Напалеонам, асабістым распараджэннем якога Ф.Булгарын быў надзелены чынам капітана.

**Ніна КУДРЭЙКА.**

